МАЛАВЯДОМЫЯ СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ

# ДЗЕД ТАЛАШ У МІНСКУ

Мікола ЖЫГОЦКІ.

У газетах і часопісах друкаваліся разнастайныя матэрыялы пра славутага беларускага партызана, удзельніка дзвюх войнаў, грамадзянскай і Вялікай Айчыннай, дзеда Талаша. Вывучаючы напісанае, я сустрэўся з фактамі, якія не адпавядаюць сапраўднасці, у іх шмат недасказанага, таго, што выклікае сумненне, пераблытанага, малаверагоднага. Недакладнымі з'яўляюцца і факты аб сустрэчах Васіля Талаша з Якубам Коласам.

Згодна вывучаных і даследаваных матэрыялаў першая іх сустрэча адбылася ў пачатку 30-х гадоў, калі ўжо ўбачыла свет аповесць пісьменніка «Дрыгва». Васіль Ісакавіч уважліва пачытаў яе і выказаў свае меркаванні.

«Я чытаў «Дрыгву» разы тры. І, нягледзячы на тое, што імёны некаторых людзей, пра якіх там гаворыцца, змянёныя, я пазнаю сваіх старых сяброў. Я пазнаю тых байцоў, разам з якімі мы баранілі нашу Савецкую краіну. У вобразе Мартына Рыля паўстае прада мной мой найбліжэйшы памочнік Аляксей Кніга, які потым прапаў без вестак на фронце. Моцны і баявы быў чалавек, і шмат мы з ім падзялілі радасці і нядолі.

...Мне многія дапамагалі, і многія ішлі ці гатовы былі ісці за мной. Гэта Янка Шут, цяперашні калгаснік, папярэдзіў мяне, калі палякі зрабілі на мяне аблаву. Сцяпан Шут — таксама мой аднавясковец — выбраўся ў атрад з адной сякерай...

Зміцер Чэмірка і Якаў хавалі пад ложкам лешнеўскага партызана, дзе ляжала іх мёртвая сястра. Такія былі людзі тады. Яны ведалі,за што змагаюцца і за што паміраюць. Гэтаму ўсіх нас вучылі такія людзі, як Коласаў Нявідны. Я пазнаю ў Нявідным аднаго камісара, з якім я ехаў некалі разам з Жытоміра. Я не памятаю яго прозвішча, ён сапраўды застаўся для мяне «Нявідным», яго гутаркі, яго словы дагэтуль засталіся ў маёй памяці».

Быў у нас і свой Саўка Мільгун. Імя было другое...

Цікавая і праўдзівая кніжка «Дрыгва». Яна не толькі расказвае пра мінулае, але вучыць нас і на будучыню.

Аднак герой кнігі не з усімі фактамі быў згодзен. Многае ён разумеў па-свойму. Паляшук вырашыў сустрэцца з пісьменнікам, каб удакладніць, дапоўніць. Пра гэту першую сустрэчу Якуб Колас да аднаго з літаратараў піша:

«Дзе і калі я сустрэўся з дзедам Талашом? Калі не здраджвае мне памяць, я ўпершыню сустрэўся з героем сваёй аповесці ў Мінску, у будынку Акадэміі навук, калі Акадэмія размяшчалася на Ленінскай вуліцы. Гэта было ў 1934 годзе, пасля таго, калі была аповесць. Дзед Талаш прачытаў яе і вырашыў убачыць мяне. Мы гаварылі з ім пра аповесць. Дзед крыху крытыкаваў мае пралікі. Так, напрыклад, у аповесці дзед названы Рыгорам. На самой жа справе яго завуць Васілём (Ісакавічам). Я пераблытаў і імёны яго сяброў. Ён таксама не быў згодзен са мной і ў тым, што ён збег ад 3-х канваіраваўшых яго польскіх салдат. Дзед упарта стаіць на тым, што іх было 5. Так было занатавана і маім саслужыўцам, які сустрэўся выпадкова з Талашом і занатаваў яго расказ. У занатаваным са слоў дзеда расказе не было Галініча, Нявіднага, многіх персанажаў палякаў. Сцэна з дзіком — гэта расказ майго бацькі, пачуты мной яшчэ ў дзяцінстве. Дзед Талаш на гэта сказаў: «Тут патрэбна разумець, як наша жыццё».

Цікава было ўпершыню пабываць палескаму селяніну ў беларускай сталіцы, сустрэцца з народным паэтам.

Тут яго многае ўразіла: шматпавярховыя дамы, вуліцы, тэатры, асобныя мясціны горада. Ён быў жаданым госцем і ў хаце Якуба Коласа ў Вайсковым завулку, дзе жыў тады пісьменнік. Гаварылі пра многае, дзед Талаш успамінаў грамадзянскую вайну, паходы, сваіх баявых сяброў.

Прыязджаў Васіль Ісакавіч у Мінск і ў 1939 годзе. У той час кампазітар Анатоль Багатыроў стварыў оперу «У пушчах Палесся», прэм'ера якой адбылася 28 жніўня. У рабоце па яе стварэнню прымаў непасрэдны ўдзел Якуб Колас. Ён нярэдка прысутнічаў на рэпетыцыях, сустракаўся з акцёрамі, расказваў ім аб падзеях грамадзянскай вайны, мужнасці нашага народа.

Былы дырэктар Мінскага тэатра оперы і балета Аскар Гантман успамінаў:

— Аднаго разу, калі ішла рэпетыцыя партызанскай сцэны, у цёмную глядзельную залу Якуб Колас увайшоў не адзін. Побач з ім быў невысокі, ужо зусім сівы, але яшчэ моцны, каржакаваты стары. Пісьменнік клапатліва пасадзіў свайго спадарожніка ў мяккае крэсла.

Загучаў партызанскі хор, заспяваў В.Лапін (выканаўца ролі Андрэя). Калі апошнія гукі партызанскай песні заціхлі ў далёкіх кутках велізарнай залы, стары нахіліўся, падняўся на сцэну. Падбег да артыста і моцна пацалаваў яму руку. Ён, відаць, быў вельмі ўсхваляваны, у яго не па-старэчы светлых вачах паблісквалі слязінкі. Хваляваўся і Лапін...

Колас пазнаёміў нас. Гэта быў легендарны дзед Талаш!

Прыязджаў Васіль Ісакавіч у Мінск і пасля яго вызвалення ад фашысцкіх захопнікаў. Тут, у рэспубліканскай зубаўрачэбнай школе, вучылася яго ўнучка Клава. Дзед у Інтэрнаце быў частым госцем. А для слухачоў і выкладчыкаў школы не было больш раднасай падзеі, чым бачыць «жывога дзеда Талаша», якога яны ведалі ўжо не толькі па Коласавай «Дрыгве», але і па шматлікіх матэрыялах ваеннага часу. Тады ж унучка з дзедам прыходзілі ў госці да Якуба Коласа.

Былы партызан атрада «За Савецкую Беларусь» Аляксандр Худавец расказвае:

— У 1944 годзе я вучыўся ў Мінску на курсах. Харчаваліся мы ў сталоўцы Дома ўрада. Аднаго разу мне паказалі рухавага дзеда. Ім быў славуты Талаш. Пасля гэтага палескага селяніна я бачыў тут на працягу двух месяцаў: ліпеня і жніўня. Ён заўсёды быў у добрым настроі, з цёплай усмешкай. Нам, маладым, было прыемна, што сярод нас быў такі вядомы герой. Мы іншы раз жартавалі: «Дзед Талаш і зайцы».

Беларускі паэт Мікола Аўрамчык таксама ўспамінае:

— У 1946 г. я працаваў у рэдакцыі газеты «Чырвоная змена». Аднойчы нехта з супрацоўнікаў прывёў партызана ў рэдакцыю на сустрэчу. Васіль Ісакавіч не па гадах быў шустры, казаў, што прыехаў да Панцеляймона Панамарэнкі (на той час сакратара ЦК КПБ) прасіць для сяўбы бульбу. Тады ён і сустрэўся з многімі людзьмі сталіцы, заклікаў жыхароў хутчэй залячыць нанесеныя вайной раны.

Была і яшчэ адна памятная паездка. Захацелася ўнучцы Клаве Талаш убачыць брата Уладзіміра, які служыў у войску пад Мінскам. Яна ўгаварыла дзеда пабываць у яго. І вось яны ва Уруччы. Адбылася цікавая сустрэча не толькі з унукам, але і з воінамі часці, якія ўпершыню ўбачылі жывога героя Коласавага твора, удзельніка дзвюх войнаў. З трыбуны Талаш расказаў прысутным аб удзеле ў Айчыннай вайне, заклікаў воінаў памнажаць поспехі ў вучобе.

СА СЛОВАМ БОЖЫМ

# НЕ КРАДЗІ

Уладзіслаў ЗАВАЛЬНЮК, настаяцель Чырвонага касцёла Святых Сымона і Алены.

Бог стварыў чалавека для шчасця і радасці. Надзяліў яго розумам і воляй, узвысіў над усімі стварэннямі, над усёй прыродай. Даў магчымасць разумна карыстацца дарамі як расліннага, так і жывёльнага свету. Але, каб чалавек не забываў, што ён стварэнне Усявышняга, запатрабаваў ад яго выканання адзінага: не карыстацца пладамі толькі аднаго дрэва пазнання дабра і зла. Чалавек жа парушыў гэты загад Бога, і Бог пакараў яго, пазбавіўшы бессмяротнасці, і абвясціў:«З гэтага часу будзеш здабываць свой хлеб надзённы ў поце чала свайго». І каб існаваць — чалавек павінен працаваць.

Але Бог не адкінуў чалавека ад сябе і хоць пакараў, але даў яму магчымасць выправіцца — даў чалавеку свае Запаветы добрасумленнага жыцця. Адным з Божых Запаветаў з'яўляецца — «НЕ КРАДЗІ».

Але, як можна выконваць Запаветы Бога, калі мы не прызнаём Бога?! Няма Бога, няма ніякай боязі, вось і крадуць людзі ў дзяржавы, абкрадваюць адзін аднаго.

Крадзе чыноўнік наш час, калі вымушае гадзінамі, днямі, тыднямі, а то і месяцамі чакаць адказу ці выдачы якога-небудзь дакумента, адсылаючы нас з аднаго кабінета ў другі.

Крадзе нядбайны чалавек, спазняючыся на працу альбо і зусім прагульваючы.

Крадзе пасажыр, не купляючы білет ў транспарце.

Крадзе бракароб, выдаючы дрэннай якасці прадукцыю (глуміць народнае дабро), а таксама збываючы «налева» матэрыялы, запасныя часткі, інструменты.

Крадзе нядбайны трактарыст, дрэнна апрацоўваючы глебу, якая пасля гэтага не дасць належнага ўраджаю.

Крадуць на фермах усё, што можна панесці: сена, канцэнтраты, малако і г.д.

Абкрадваюць сябе сваёй нядбайнасцю, кінуўшы акурак у неналежным месцы, з-за чаго гарыць склад сена ці зерня, кароўнік ці птушкаферма. Абкрадваюць сябе і тым, што абыякава і нядбайна адносяцца да патрабаванняў правіл аховы народнага дабра, нашых здабыткаў.

Крадзяжы дасягнулі непамернага росквіту: крадуць усё, што можна несці і везці, ад некалькіх цвікоў да трактара, ці кантэйнера.

Як не дзіўна, але людзі нават прывыклі звычайнага злодзея называць не злодзеем, а «нясуном», бо ўжо не адчуваюць сораму за крадзеж. Я ўжо не гавару аб крадзяжах на вялікія сумы дзяржаўнай маёмасці, бо гэта лічыцца, што «чалавек умее жыць».

І зусім ганебная з'ява адбываецца пры атрыманні гуманітарнай дапамогі ад іншых дзяржаў. Людзі з-за мяжы, ведаючы аб нашых цяжкасцях, стараюцца дапамагчы нам чым могуць: збіраюць сродкі сярод такіх жа рабочых, служачых, пенсіянераў, купляюць за іх прадукты, лекі і іншае. А што робяць тут? Як падымаецца рука на гэтую дапамогу ў забяспечаных людзей?! Як яны могуць потым гэтай дапамогай гандляваць?! Сорам!

Карані гэтай ганебнай з'явы ў бездухоўнасці, у адсутнасці выхавання, веры і прызнання Бога.

Многія спасылаюцца на тое, што рост злачыннасці і розных негатыўных з'яў у нашым грамадстве — вынік эканамічнага становішча, матэрыяльных нястач. Гэта вельмі вялікая памылка. Ці ж з-за недахопу хлеба, альбо з-за парваных ботаў крадуць аўтамабілі, здымаюць з іх колы і іншыя часткі? Ці ж з-за голаду ўкралі і спалілі аўтобус хуткай дапамогі? На гэтыя з'явы трэба глядзець так, як яны таго заслугоўваюць: гэта распуста, уседазволенасць і бязвер'е.

Пасляваенны час быў куды цяжэй, а ці ж так кралі? Паглядзіце зараз на нашых людзей: адзеты ў футры, імпартныя абутак, паліто, курткі. Усюды чэргі за гарэлкай. На вуліцах няма праходу ад уласных аўтамабіляў. Аб голадзе грэх гаварыць. Большасць людзей мае запасы, і не малыя. Многія працуюць улетку на сваіх дачах, на бацькоўскіх падворках. Ёсць і саленні, і варэнні. Крамы таксама не пустыя. Грашаць перад Богам і апраўдваюць сябе.

Сёння ў асноўным крадуць тыя, хто не хоча працаваць, і тыя, каму ўсяго ўвесь час мала. Крадуць не кавалак хлеба, каб з'есці, а каштоўнасці, машыны, розную тэхніку, каляровыя металы і г.д. Ці ж тая кухар у школе-інтэрнаце не мела чаго есці, калі абкрадвала дзяцей і цягнула са сталовай прадукты і тое, што прысылалі з гуманітарнай дапамогай? Ці не мелі за што купіць хлеба тыя, што кралі купоны і талоны ў ЖЭСах? Ці ж ад таго, што няма чаго есці лезуць у кватэру, альбо зрываюць з чалавека футравую шапку ці залатыя завушніцы? Крадуць тыя, хто не знае і не хоча знаць Бога, бо Бог перашкаджае жыць, не лічачыся з бліжнімі.

Веруючы ў Бога чалавек не пойдзе красці. Прывяду вам толькі адзін прыклад. Да мяне на споведзі звярнулася жанчына:«Учора ў краме я атрымала па талону масла, палажыла ў сумку і пайшла за мукой. Там расхвалявалася, нават паспрачалася з прадаўцом і, узяўшы ў рукі паўпакета з мукой, пайшла да касы. Заплаціла за муку, а пра масла і забылася. І толькі ўвечары, калі ўзяла сумку, убачыла там масла. Стала прыпамінаць і, падлічыўшы грошы, упэўнілася, што за яго я не заплаціла. Што мне, пробашчу, рабіць?» Бачыце, жанчына пытае, што рабіць?

Я жанчыне растлумачыў, што грэху вялікага тут няма, бо яна не знарок не заплаціла, але абавязкова трэба аднесці грошы таму касіру, які працаваў у той дзень. Інакш касіру прыйдзецца дакладаць сваімі грашыма — гэта ўжо крыўда бліжняга, таксама грэх.

Веруючы па-сапраўднаму чалавек красці не будзе. Вядома, што і сярод веруючых ёсць такія, якія толькі прыкрываюцца верай, але ўчынкі іх не заўсёды адпавядаюць Запаветам Божым. Бог іх асудзіць!

Мы ігнаруем Божыя Запаветы і самі робім сабе розныя беды, аварыі, той жа Чарнобыль. Ад гэтага і наша бяднота, і нашы хваробы. Трэба спыніцца і звярнуцца да свайго сумлення, а яно ў кожнага ёсць, толькі не ўцякайце ад яго, бо немагчыма ўцячы ад самога сябе. Дайце хоць крыху сябе людзям, Айчыне і тады сапраўды будзеце мець ўсё, бо толькі той багаты і той мае, хто шчодра дзеліцца з бліжнім. «Хто дае, а не прадае», — гаворыць Ісус Хрыстос.

Падумайце, жыццё наша зямное вельмі кароткае, прыйдзе час і хочам мы таго ці не, душа наша стане перад Судом Усявышняга. Судзіць нас будзе Бог па нашых учынках, па таму, як мы выконвалі Божыя Запаветы: не крадзі, не хлусі, не сведчы лжыва на свайго бліжняга, не жадай таго, што табе не належыць. І пакуль яшчэ маем час,выкарыстаем яго для ачышчэння нашага сумлення, нашай душы.

Асабліва звяртаюся да вас, бацькі і маці! Звярніце ўвагу на выхаванне вашых дзетак. Яны наша будучыня, наш скарб. Вядзіце іх да Бога, да веры, знаёмце з Запаветамі Божымі, і яны вырастуць сумленнымі паважанымі грамадзянамі нашай незалежнай краіны, будуць дапамогай і апорай вам у старасці.

Ад усяго сэрца малю Усявышняга, каб Бог Усемагутны асвяціў вашы сэрцы і Душы і засцярог ад усяго злога, дапамог заслужыць вечную радасць у небе. Амінь.

РЕСПУБЛИКА

## Алло! Нью-Йорк? Молодечно на проводе

Совместное предприятие «Белсел» планирует в августе этого года открыть базовые станции сотовой спутниковой связи в Борисове и Молодечно. Абоненты в этих городах получат возможность в считанные минуты связываться с любой точкой земного шара при помощи переносного радиотелефона.

До сих пор подобными системами связи были оборудованы лишь некоторые столичные центры СНГ.

## Урожай-93 — какой он ожидается?

— ПРИМЕРНО 2,6 миллиона гектаров хлебов предстоит ныне убрать земледельцам республики. Это на уровне прошлого года, — так корреспонденту РИДа ответил на этот вопрос начальник управления растениеводства, продуктов его переработки Министерства сельского хозяйства республики И.С.Савеня.

По прогнозам И.С.Савени, нынешний год ожидается с недобором как озимых, так и яровых. Недобор яровых объясняется тем, что Россия вовремя не дала нам удобрения. По этой причине в почву было внесено только 60 процентов минеральных и менее половины оптимального количества фосфорных удобрений.

## На Беларусь напал столбняк

За первую половину нынешнего года зафиксировано уже 4 случая этого тяжелого заболевания, один из них — с летальным исходом. А ведь раньше были годы, когда столбняк вообще отсутствовал в медицинской статистике Беларуси.

Болеют сейчас, в основном, взрослые, которые в свое время не прививались от столбняка. Инфекцию подхватывают на садовых участках, когда в результате мелких травм и царапин столбнячная палочка проникает в организм. Поэтому любая рана должна быть обработана хирургом. А лучше всего пойти на прививку.

## За дружбу харцеров и комсомольцев

В наше напряженное, богатое социальными потрясениями время подрастающее поколение оставлено без внимания — такой вывод единодушно был сделан на недавней встрече руководителей молодежных организаций, детских и юношеских учреждений. Она состоялась по инициативе отдела по делам молодежи при комитете по социальному развитию Гродненского облисполкома и обкома СМБ.

Участники встречи сошлись на том, что несмотря на некоторые различия во взглядах, идеях и убеждениях, они должны заниматься одним делом — воспитанием молодежи. А потому не мешало бы почаще собираться за общим столом скаутам, харцерам, пионерам, комсомольцам, членам СМБ, а также представителям других объединений и организаций, чтобы вместе решать назревшие проблемы. Сила заключается в единстве, а разница в политических убеждениях здесь не помеха.

## «Рим-IV» «адгукнуўся» в белорусских песнях

Своеобразной поддержкой идеи о преобразовании Гродно в культурную столицу Беларуси, высказанной участниками Международной научной конференции белорусистов мира «Рим-IV», которая продолжает свою работу в областном центре, стал вечер белорусской бардовской песни, организованный в среду, 30 июня, в Театре кукол. И хотя зрителей из-за недостаточной рекламы в зале было немного, пришедшие на концерт остались довольны. Они услышали песни таких минских авторов, как А.Кудласевич, К.Геращенко, а также столичной рок-группы «Камелот». В заключение вечера, который, кстати, для гродненцев был организован бесплатно, с гитарой на сцену вышел его ведущий — любимец гродненской публики Виктор Шалкевич, победитель прошлогоднего конкурса белорусской песни в Польше «Басовище-92» и Республиканского конкурса бардовской песни в этом году. Все звучащие на вечере песни были национально-патриотического характера и исполнялись на белорусском языке.

## Редкая «птица» перелетит через Пинскую таможню

С первого июля официально начала свою работу Пинская таможня на белорусско-украинской границе. Пункты досмотра создаются в четырех близлежащих районах: Пинском, Ивановском, Столинском, Лунинецком.

Как предполагается, на этот участок границы будет набрано 125 сотрудников таможни. Число управленцев (а как же без них!) составит 45 человек.

## А теперь водички захотелось

У этих людей есть все: власть, большие деньги и дефицитные стройматериалы, — только воды из Сожа им не хватало. Вот и облюбовали некоторые «респектабельные» гомельчане живописные берега реки и начали строить коттеджи, виллы и даже дворцы. Самовольно захватив земли, уничтожив нерестилище рыбы, — и все потому, что у них есть...(см. выше).

Райисполком принял решение освободить территорию от застроек. Но, видимо, справедливость восторжествует не скоро.

## Нельзя! Но очень хочется...

Сотни гомельчан отправляются в эти воскресные дни в окрестные леса за ягодами и грибами и никто не возвращается домой с пустыми руками: в корзинах — черника, земляника, сыроежки, подберезовики и даже первые «колосовики». Ну как тут не радоваться горожанину. Вот только как быть с «наследством», которое оставил после себя Чернобыль? Ведь ученые, медики предупреждают: будьте трижды осторожны, употребляя дары леса.

(По сообщениям РИД.)

РЕЗОНАНС

# «СЕРВИС ПО-ПРЕЖНЕМУ НЕ НАВЯЗЧИВ, НО УЖЕ НЕ НАХОДЧИВ»

Управлением бытового обслуживания населения Мингорисполкома рассмотрен критический материал Тамары МАРКИНОЙ и Татьяны СМОЛИЧ «Сервис по-прежнему не навязчив, но уже не находчив», опубликованный в газете «Добры вечар» 02.06.93 г. Обсужден на технико-экономическом совете управления 20.06.93 г. Критика признана правильной. Тем не менее было констатировано, что из-за тяжелого финансового состояния предприятия службы быта вынуждены были закрывать убыточные приемные пункты.

В настоящее время закрытие сети приостановлено. Управлением осуществляется ряд мер по стабилизации финансового положения убыточных предприятий, максимального сохранения сети подразделений, а также оказания им финансовой помощи.

Для более эффективного использования арендуемых помещений и укрепления финансового положения решением Мингорисполкома № 141 от 10.03.92 г. предприятиям службы быта предоставлено право (кроме основной деятельности) заниматься дополнительными рентабельными видами работ и услуг. В результате на свободных площадях предприятий службы быта появилась возможность организовывать совместную деятельность с малыми структурами по выполнению услуг, изготовлению и реализации товаров народного потребления.

Льготы для предприятий службы быта на 1993 год предусмотрены и решением Мингорисполкома № 126 от 25.03.93 г. «О мерах по стабилизации деятельности службы быта г.Минска».

Тем не менее за отсутствие контроля за освоением производственных площадей, использованием технологического оборудования и за приниженную личную ответственность директору фирмы разнобытовых услуг «Радуга» А.И.Тарасенкову объявлен выговор. Он лишен премиальной оплаты за май т.г. Ему же поручено провести анализ и пересмотреть договоры о совместной деятельности, разобраться с неустановленным оборудованием, принять меры по использованию площадей и восстановлению ранее предлагаемых бытовых услуг населению.

Кстати, А.И.Тарасенковым издан приказ о привлечении виновных к ответственности, принимаются меры по соблюдению государственной дисциплины цен, качеству выполнения заказов, соблюдению режима работы, санитарного содержания сети, организации и внедрению новых видов услуг, наиболее эффективного использования незадействованных площадей. Выполнение мероприятий взято на контроль управлением.

ФОТАКОНКУРС

## ІМГНЕННЕ І ЖЫЦЦЁ

ПАКРЫЎДЗІЎСЯ.

Фота Уладзіслава БАСЬКО.

ПАМФЛЕТ

# НАДЗВЫЧАЙНАЕ ЗДАРЭННЕ

*(вайсковая містэрыя ва ўмовах, блізкіх да баявых)*

Валерый КОЖАР, сябра ТБМ імя Ф.Скарыны.

— Алярм, алярм!!! Трывога! ...Алярм!

— Ну што за вэрхал такі? Які можа быць «алярм» у пасляабедзенны час?

— Таварыш генерал! Лакатары зафіксавалі паветраны напад на Беларусь! У сектары 15 «А» ў накірунку поўдзень-усход - поўнач-захад!!!

— Ты мне вумнікам не прыкідвайся. Пакажы пальцам, з якога боку нападаюць.

— Так, так. З усходу, кажаш? Хто б гэта на нас мог напасць з усходу? Няйначай Башкыртыстан! Занадта ўжо наш урад налягаў, каб яны разлічыліся за бульбу і таплёныя сыркі. Так заўсёды: палітыкі наблытаюць, а вайскоўцам адсапвацца.

— Ну добра. Паклікаць тэрмінова палкоўніка Жыгалава!...Што вачыма лыпаеш?

— Выбачайце, таварыш генерал, але ў таварыша палкоўніка пасля ўчарашняга мерапрыемства, якое праводзілася Саюзам афіцэраў разам са Славянскім Саборам, так трымцяць усе канечнасці, што ён з раніцы не можа трапіць правай нагой нават у левую калашыню галіфэ. Старшына пабег пашукаць лекаў...

— Тады хуценька знайсці палкоўніка Тазаберды Абдулшараварава!

— Гэтага я не раіў бы клікаць. Ён жа ці-то удмурт, ці-то башкырт з падвоенным грамадзянствам. Невядома, у які бок загадае страляць: альбо ў вашых, альбо ў нашых.

— Тады звяжыся з палкоўнікам Шашлыковым, каб ён неадкладна бег у штаб!

— Выбачайце, таварыш генерал, але вы, пэўна, забыліся, што таварыш палкоўнік знаходзіцца на будаўніцтве сакрэтнага аб'екта нумар 7, замаскіраванага пад ваша прыватнае леціішча...

— Ну вось гэта ўжо нікуды не варта. Я, канешне, разумею, што трэба карыстацца момантам, пакуль маўчаць гарматы і ўся тэхніка разам з асабовым складам нічым незанятая, але ў сучасны напружаны міжнародны момант, калі на рэспубліку сыплюцца ультыматумы ды, таго й глядзі, скінуць дэсант, можна было б паслаць на дачу каго-небудзь з малодшых афіцэраў, не кідаючы часць без дагляду.

— Не турбуйцеся, таварыш генерал, бо савецкі афіцэр у гэткіх варунках ніколі не кіне сваю часць без дагляду. Яна амаль у поўным складзе таксама будуе сакрэтны аб'ект нумар 7 пад даглядам таварыша палкоўніка.

— Цццц!!!... Аб гэтым болей ні слова. Яшчэ пачуе які-небудзь здраднік з БЗВ, вось тады сапраўды будзе цяжка ўбараніцца!

— Чацвёртую роту — у стрэээль-бу!!! З маёрам Паддавалавым на пускавую пляцоўку!!!

— Выбачайце, таварыш генерал, але ўсе ракеты даўно спушчаны аднаму негацыянту з Арменіі, пляцоўка здана ў арэнду камерцыйнаму прадпрыемству «Аэробіка», а таварыша маёра вы самі камандыравалі за насеннем партугальскіх трускалак у Канатоп. Што да чацвёртай роты, дык яна зусім не баяздольная, бо апынулася пад моцным уплывам крышнаітаў. Раніцой старшыня паспрабаваў быў прымусіць асабовы склад роты вычысціць гармату ад іржаўчыны, ды чуе ў адказ: «Знікні, харя, харя крышку, харя — харя, крыху харя...». «Нам, — кажуць яны, — наша набажэнства забараняе гэткага паскуства нават «пальцам кранацца».

— Ну дык адшукай хуценька капітана Амбарцумяна. Ён афіцэр спрытны й кемлівы. Як нас перакінулі сюды з пад Карл-Маркс-штадту, адразу ж пачаў вучыцца гаварыць па-беларуску. Толькі і чуеш ад яго: «неяк абыйдзецца» ды «халераягобяры».

— Але, таварыш генерал, яго менавіта з-за гэтага звольнілі ў запас, як беларускага нацыяналіста. Вы ж самі загад падпісвалі.

— Відаць, праўду кажуць, што ад «Раялю» памяць псуецца. Вось што, тады збяры ўсіх штабных. Усіх, хто ёсць у наяўнасці: друкаршчыц, пісараў, рахункаводаў, сантэхнікаў, прыбіральшчыц — і на шостую батарэю, да гармат! Ну,што, зноў не так?!!

— Няма...

— Чаго няма, каб цябе пранцы...?!!

— Гарматаў няма. Вы забыліся, таварыш генерал, што ўсе гарматы з 3, 4, 5 і 6 батарэяў былі прададзены таджыкам па бартэру ў абмен на абяцанне прысладзь рысавай крупы ў пачатку наступнага стагоддзя. У большасці вайскоўцаў з усяго баявога рыштунку захаваліся толькі глінцовыя лыжкі.

— Дык што? Ты хочаш мне сказаць, што ў нас аніякай зброі не засталося?

— Не, таварыш генерал, троху ёсць. Засталося тое, чаму бракуе таварнага выгляду. Вось у чацвёртай батарэі ёсць іржавая гармата, але толькі з адзіным колам.

— А дзе ж другое?

— Ведаеце, таварыш генерал, калі мы знаходзіліся ў Нямеччыне, прапаршчык Хапалаў з бадуна набыў нейкую дзіўную легкавушку, да якой пасуюць толькі гарматныя колы. Мусіць, якраз ён гэтае кола і пазычыў. Але вы не турбуйцеся. Калі пад вось падставіць тры ці чатыры цагліны, то гармата стаяць будзе.

— А ці ёсць да яе набоі?

— Не, таварыш генерал, гэтага тавару ў нас даўно ўжо няма. Яшчэ з часоў пачатку армяна-азербайджанскай спрэчкі за Карабах. Тады быў добры попыт, і мы, калі памятаеце, правярнулі з набоямі добрую камерцыю...

— Дык што рабіць? Застаюцца толькі дзве магчымасці: ехаць дадому ў палон, ці адступаць агародамі і звярынымі сцяжынкамі назад у Германію?... Запісвай загад, браце...

— Чакайце, таварыш генерал, во, нешта паведамляюць з пункту радыялакацыйнага назірання. Чуеце?... Кажуць, памылковая трывога. Нейкі боўдзіла жартам уключыў імітатар цэлі.

— Дзякуй, таварыш лейтэнант! За выдатна выкананую службу прадстаўляю вас да ўзнагароды ордэнам Кастрычніцкай рэвалюцыі... Усё, што магу! Я чуў, што ў Польшчы ён цяпер у добрай цане... Усё, што магу!..

— Служу Савецкаму Саюзу! Выбачайце, таварыш генерал... Рэспубліцы Беларусь!

